Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 94 (4346)

27 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**ТОЧКА ЗРЕНИЯ**

Александр ФЕДУТА

## Кто готовит революцию?!

Мне показалось или я ослышался? Цитирую все ту же новостную ленту государственного агентства БЕЛТА: «*Но самое главное – у всей вертикали власти экзамен – парламентские и президентские выборы. Я это никогда не скрывал и не скрываю. Это экзамен, который мы все будем сдавать. Мы не будем довлеть над народом и продвигать какую-то одну кандидатуру. Мы должны подойти к выборам так, чтобы в умах людей даже не было альтернативы*».

Я не об экзамене, в достоверность результатов которого, полагаю, не верят многие. Я о такой фразе Александра Лукашенко: «...Чтобы в умах людей даже не было альтернативы».

Проблема в том, что альтернатива есть всегда; плохая она или хорошая – другой вопрос. Ее наличие дает возможность любой действующей власти избежать ответственности за содеянное. Сегодня один правитель, завтра другой правитель; и мирный уход каждого гарантирует обществу и государству отсутствие потрясений и бурь. Это как паровой котел: выпустил лишек пара – и машина может работать дальше. Спокойно работать.

Пугает именно отсутствие альтернативы. Оно вселяет в людей ощущение безысходности. И дальше можно сколько угодно уговаривать молодежь оставаться жить и работать в собственной стране. Не подействуют уговоры. Она ведь видит: альтернативы нет, а значит, нужно давать дёру отсюда. Жизнь ведь дается человеку всего один раз, и прожить ее хочется… просто хочется прожить спокойно, зарабатывая на достойное будущее своих детей, а не на льготные участки земли в «Дроздах» отставным генералам КГБ, которые потом построенные на них особняки продают за баснословное количество долларов или сдают в аренду. И бесполезно твердить о том, что будет вестись безусловная и последовательная борьба с теми, кто перепродает втридорога купленное по льготным ценам или построенное по льготным кредитам жилье. Люди-то не слепые и не идиоты, они знают, сколько улучшивших таким образом свое жилищное положение персон имели отношение к власти. Знают. А те только хихикают в ладошку: мол, всех не пересажаешь – альтернативы-то нет!

Именно безысходность порождает революции. Когда вчерашнего кумира завтра поднимают на вилы. Помнится, «Отец Родины» (он же «Гений Карпат») Николае Чаушеску утверждал в августе 1989 года:

– Скорее Дунай потечет вспять, чем в Румынии начнется перестройка.

С августа до 21 декабря времени прошло не так уж и много. Котел рванул. И рванул именно потому, что альтернативных путей для выпуска пара предусмотрено не было. Наоборот, их затыкали настолько усердно, что смертельный исход был попросту неизбежен.

И наоборот. Практически все социалистические лидеры, сумевшие пар выпустить, спокойно умерли в своей постели. Некоторым, правда, успели потрепать нервы преемники – ну так сами виноваты, засиживаться не следовало. Их же соратники слишком долго ждали, пока «отцы родины» соблаговолят допустить к власти внутрипартийную альтернативу.

Наличие альтернативы предполагает наличие диалога. Страх перед альтернативой отчетливо свидетельствует не о силе власти, а о ее неуверенности в себе. Сильная власть охотно демонстрирует альтернативу – причем даже не пугает ею избирателя, а просто демонстрирует: посмотрите, их программа хуже, они не знают, что делать, чтобы вы стали жить лучше. Безальтернативность – это три срока подряд обещать среднюю зарплату в 500 долларов, зная, что она невозможна и что немедленно после выборов ветры вернутся на круги своя… И при этом свято верить в то, что избиратель – идиот, который ничего не заметил.

Когда глава государства заговорил о безальтернативности, это, я считаю, верный признак того, что кто-то в высших эшелонах готовит революцию. Иначе дали бы выпустить пар из котла. Но – нет. Новым революционерам нужен взрыв, чтобы кого-то ошпарило уже окончательно, в надежде на то, что уж они-то сами сумеют увернуться.

Боюсь, мало не покажется всем.

Не нужно революций. Нужна мирная альтернатива, нормальная конкуренция политических программ. Тогда есть шанс, что все уцелеем.

**ДАСЛОЎНА**

### Сяргей РУМАС:

– Сярэдні заробак павінен скласці ў наступным годзе не менш за 1025 рублёў. Зарплата ў бюджэтным сектары павінна быць не менш за 80% ад сярэдняй заработнай платы, то бок на ўзроўні 820 рублёў – гэта ў сярэднім па годзе.

**ПРАГНОЗЫ**

### Эпідэміі грыпу не будзе?

Міністр аховы здароўя **Валерый Малашка** распавёў на тэлебачанні, што ўздым захворвання на грып у Беларусі чакаецца пад канец студзеня – на пачатку лютага.

У той жа час ён дадаў, што сур'ёзнай эпідэміі грыпу не чакаецца. Прышчэпкі ад грыпу зробіць аптымальная колькасць насельніцтва краіны, і аптэкі гатовы да магчымага ўсплёску захворвання.

**СТАЛА ВЯДОМА...**

## Пашынян не прыедзе ў Мінск

Сёння, 27 лістапада, у беларускай сталіцы пройдзе пасяджэнне Еўразійскага міжурадавага савета з удзелам кіраўнікоў урадаў краін Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) і старшыні Калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) **Тыграна Саркісяна**. Старшынстваваць на саміце будзе расійскі прэм'ер **Дзмітрый Мядзведзеў**.

Учора армянскія СМІ паведамілі, што на мінскае пасяджэнне не паедзе выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Арменіі **Нікол Пашынян.** Яго заменіць выканаўца абавязкаў першага віцэ-прэм'ера **Арарат Мірзаян.**

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**ПАМЯЦЬ**

## Патрыёты ўшанавалі герояў Слуцкага Збройнага Чыну




25 лістапада на заклік Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ беларускія патрыёты правялі традыцыйныя мемарыяльныя мерапрыемствы на гераічнай Случчыне. Адбыліся шэсці і мітынгі на месцах баёў Слуцкага Збройнага Чыну: у Грозаве, Семежаве і Чырвонай Слабадзе. Грамада гукала: "Жыве Беларусь!", "Жыве вечна!". Да крыжоў, усталяваных у мінулыя гады, былі ўскладзены кветкі і вянкі, запалены знічкі. Ва ўсіх месцах Слуцкага Збройнага Чыну ўдзельнікі акцыі спявалі ваярскія песні і гімн "Магутны Божа".

Быў заслуханы зварот Зянона Пазьняка, старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ. Вёў мітынгі Алесь Чахольскі, адказны сакратар КХП–БНФ. З прамовамі выступілі Юрый Беленькі, выканаўца абавязкаў у Беларусі старшыні партыі, і шэраг іншых асоб. Яны распавялі пра гісторыю Слуцкага Збройнага Чыну і ахвярны подзвіг Беларускай Народнай Арміі, якая пад сцягам БНР бараніла ў няроўным змаганні нашу Айчыну ад маскоўска-бальшавіцкай арды. Гэта быў працяг тытанічнага змагання нашай нацыі супраць захопнікаў з усходу, якое беларусы вялі на працягу стагоддзяў, баронячы, можна сказаць, усю еўрапейскую цывілізацыю. І абуральна, што дагэтуль існуючыя ў Беларусі ўлады адмаўляюцца ўшанаваць нацыянальных герояў помнікамі і адкрыццём гістарычнай праўды для нашага народа і ўсяго свету. Ставяцца на беларускай зямлі помнікі чужынскім генералам і казакам, якія заваёўвалі Беларусь і залівалі яе крывёй, а пра сапраўды нацыянальных герояў стараюцца не ўзгадваць.

**Валерый БУЙВАЛ,
кіраўнік інфармацыйнай камісіі Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ.**

**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

# «Асадзі назад!..»

20 лістапада ў «Народнай Волі» быў надрукаваны артыкул дацэнта, сацыёлага Васіля Русовіча «Пражорлівы дзяржаўны апарат…». Паколькі ў ім закранулася звышхвалюючая тэма, звязаная з расходаваннем сродкаў агульнанацыянальнага бюджэту, то ён выклікаў шырокі рэзананс. Як і прадбачылася, газетная публікацыя стала прадметам надзвычай гарачага абмеркавання ўдзельнікаў тэлевізійнай перадачы «Клуб рэдактараў». І ў гэтым нічога благога не было б, калі б не адна акалічнасць. Танальнасць маналогаў вядучага Г.Давыдзькі і некаторых яго памагатых нагадвала тыя змрочныя часы, калі людзей пасля падобных абвінавачванняў ставілі да сценкі альбо ў лепшым выпадку адпраўлялі на Салаўкі без права перапіскі. З экрана даносілася: «*Куда смотрит Министерство информации?*», «*Доцент, социолог – что он себе позволяет?*» Ці: «*Эту статью можно расценивать, если бы я был в какой-то комиссии и которая определяет это, как абсолютно голый экстремизм, как экстремистское явление*».

Не будзем далей цытаваць спадара-таварыша Давыдзьку. Спішам яго эмацыйны запал на тое, што хоць ён і вядзе «Клуб рэдактараў», але вопытным рэдактарам, як і знакамітым журналістам, назваць яго не выпадае, ён больш вядомы як былы артыст (не народны) і цяперашні кіраўнік грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Хоць, зазначым, нічога незвычайнага няма ў тым, што ён вырашыў на свой розум публічна адрэцэнзаваць артыкул дацэнта, сацыёлага Васіля Русовіча. Аўтар публікацыі і рэдакцыя газеты «Народная Воля» выказалі б яму ўдзячнасць, калі б гэта было зроблена кампетэнтна, у адпаведнасці з законамі жанру. Ды, як кажуць, не па Сеньцы шапка!

Генадзь Давыдзька сцвярджае, што «*в проекте бюджета 65% запланированы расходы на оплату труда, пенсии, стипендии, пособия и другие выплаты*». Цікава было б даведацца, якім калькулятарам ён карыстаўся. Бо артыкулы расходавання дзяржбюджэту на 2018 год утрымліваюць наступныя лічбы:

– ахова здароўя – 4,53 працэнта;

– адукацыя – 4,44;

– сацыяльная палітыка – 8,98;

– фізічная культура, спорт, культура і СМІ – 1,97 працэнта.

Калі падсумуем, то нават 20 працэнтаў не атрымаем…

Сцвярджэнні Г.Давыдзькі наконт таго, што з бюджэту прадугледжваюцца выплаты пенсій, – безумоўна, ад нячысціка. Для гэтага ёсць Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Калі з бюджэта пакрываюцца пенсіі, то толькі сілавікоў, а іх у агульнай масе пенсіянераў – дробязь.

На пачатку 2018 года Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь падрыхтавала добра ілюстраваную аналітычную метадычку «*Бюджет Республики Беларусь для граждан на 2018 год*», дзе ўсім і кожнаму «*разжевало*» не толькі куды і колькі накіроўваецца грошай з бюджэту, але нават патлумачыла і наглядна паказала, чым дзяржаўны бюджэт адрозніваецца ад кансалідаванага. Гляньце, калі ласка, вось на такую табліцу (на жаль, інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў ёй, на беларускай мове не прадстаўлена).

### Часть расходов республиканского бюджета в 2018 году (рублей)

| | |
|---|---|
| **ОБЩЕГОСУДАРСТВЕННАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ** | **10 020 938 942,0** |
| **Государственные органы общего назначения** | **605 635 393,0** |
| государственные органы, обеспечивающие деятельность Президента Республики Беларусь | 20 575 367,0 |
| представительный и законодательный орган Республики Беларусь | 16 852 484,0 |
| органы государственного управления и другие органы исполнительной власти общего назначения | 117 739 597,0 |
| финансовые и налоговые органы | 277 819 184,0 |
| органы государственной статистики | 56 962 445,0 |
| государственные архивы | 6 139 301,0 |
| иные государственные органы и организации | 109 547 015,0 |
| **Международная деятельность** | **276 486 978,0** |
| открытие и содержание дипломатических представительств и консульских учреждений Республики Беларусь за рубежом | 142 258 136,0 |
| международное сотрудничество | 19 726 399,0 |
| международные культурные и информационные связи | 957 739,0 |
| аппараты уставных органов межгосударственной интеграции | 23 871 706,0 |
| отчисления в бюджет Союзного государства | 56 265 000,0 |
| международное научно-техническое сотрудничество | 15 585 521,0 |
| прочие вопросы, связанные с международной деятельностью | 17 822 477,0 |
| **Обеспечение проведения выборов и референдумов** | **19 443 961,0** |
| **Обслуживание государственного долга Республики Беларусь** | **2 536 582 011,0** |
| обслуживание внутреннего государственного долга | 589 677 788,0 |
| обслуживание внешнего государственного долга | 1 946 904 223,0 |
| **Государственный материальный резерв** | **98 081 835,0** |
| **Фундаментальные научные исследования** | **93 127 222,0** |
| фундаментальные научные исследования | 93 127 222,0 |
| **Прикладные исследования в области общегосударственной деятельности** | **71 233 047,0** |
| **Резервные фонды** | **1 220 412 473,0** |
| резервный фонд Президента Республики Беларусь | 1 201 100 000,0 |
| из них резервный фонд, сформированный за счет поступления дополнительных доходов | 300 000 000,0 |
| финансовая помощь юридическим лицам и индивидуальным предпринимателям | 4 786 473,0 |
| фонд финансирования расходов, связанных со стихийными бедствиями, авариями и катастрофами | 14 526 000,0 |
| **Другая общегосударственная деятельность** | **518 764 649,0** |
| свободные экономические зоны | 2 200 811,0 |
| иные общегосударственные вопросы | 516 563 838,0 |
| из них: | |
| государственная инвестиционная программа | 198 513 000,0 |
| республиканский централизованный инновационный фонд | 108 867 809,0 |
| увеличение доли государства в уставных фондах (в том числе приобретение акций) | 9 000 000,0 |
| возмещение юридическим лицам 50 процентов от суммы процентных платежей по внешним государственным займам и внешним займам, полученным под гарантии Правительства Республики Беларусь | 66 657 395,0 |
| **Межбюджетные трансферты** | **4 581 171 373,0** |
| трансферты бюджетам других уровней | 3 165 371 373,0 |
| трансферты государственным внебюджетным фондам | 1 415 800 000,0 |
| **НАЦИОНАЛЬНАЯ ОБОРОНА** | **1 104 673 454,0** |
| **Оборона и Вооруженные Силы Республики Беларусь** | **1 032 792 922,0** |
| **Обеспечение мобилизационной подготовки и мобилизации** | **59 454 365,0** |
| **Другие вопросы, связанные с национальной обороной** | **12 426 167,0** |
| **СУДЕБНАЯ ВЛАСТЬ, ПРАВООХРАНИТЕЛЬНАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ И ОБЕСПЕЧЕНИЕ БЕЗОПАСНОСТИ** | **2 120 795 154,0** |
| **Органы внутренних дел** | **791 019 132,0** |
| **Органы прокуратуры** | **60 886 599,0** |
| **Органы пограничной службы** | **197 458 569,0** |
| **Органы и организации уголовно-исполнительной системы** | **189 786 414,0** |
| **Органы государственной безопасности** | **163 507 816,0** |
| **Органы судебной власти** | **121 280 573,0** |
| **Таможенные органы** | **123 329 237,0** |
| **Органы и подразделения по чрезвычайным ситуациям** | **230 858 484,0** |
| **Предупреждение и ликвидация последствий чрезвычайных ситуаций** | **1 732 882,0** |
| **Прикладные исследования в области правоохранительной деятельности и обеспечения безопасности** | **1 065 150,0** |
| **Другие вопросы в области правоохранительной деятельности и обеспечения безопасности** | **239 870 298,0** |

Згодна з падлікамі, расходы на агульнадзяржаўную дзейнасць складаюць 50,74 працэнта ўсяго бюджэту. Многія лічбы даюць поўнае ўяўленне, колькі грашовых сродкаў выдзяляецца ў нас, скажам, на ўтрыманне дзяржаўнага апарату. Вось тут Васілю Русовічу, аўтару вышэйназванай публікацыі, як і журналістам, якія рыхтавалі яе да друку, а таксама рэдактару, які даў ёй «зялёнае святло», трэба павініцца і адкрыта сказаць: у артыкуле дапушчана блытаніна ў паняццях. Расходы, звязаныя з дзяржаўнай дзейнасцю, дзяржаўным будаўніцтвам, – гэта не толькі расходы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату. Хоць спадару Давыдзьку не трэба было так заўзята, так апантана абараняць чыноўнікаў. Іх у нас сапраўды процьма. Што ні структура, то можна скарачаць і скарачаць. А што тычыцца карыкатуры, то на тое яна і карыкатура, каб выклікала смех, абурэнне і г.д. Ні аўтар артыкула, ні газета не праводзілі параляляў паміж дзяржслужачымі і баранамі альбо казламі, як гэта зрабіў Давыдзька падчас тэлеперадачы. Праблема, падкрэсліваем, у іншым: што і казаць, шмат, вельмі шмат траціцца ў нас грошай на ўтрыманне раздзьмутага дзяржаўнага апарату!

Мы, беларусы, жывём на сваёй зямлі, мы любім нашу краіну, жадаем бачыць яе квітнеючай, з высокім дабрабытам людзей. І менавіта з гэтага выцякае пытанне: ці правільна, ці разумна размяркоўваецца наш агульнанацыянальны бюджэт? На сённяшні дзень гэта вострадыскусійная праблема. І спадар Русовіч, мабыць, мае рацыю, калі лічыць, што *САЦЫЯЛЬНЫ БЛОК БЕЛАРУСКАГА БЮДЖЭТУ ПАВІНЕН УЖО СЁННЯ БЫЦЬ ПАВЯЛІЧАНЫ З 20 ПРАЦЭНТАЎ ДА 50–70*. Пры гэтым ён прыводзіць у прыклад Саудаўскую Аравію. Галоўнае яе дасягненне – сацыяльная дапамога кожнаму жыхару з боку дзяржавы ад нараджэння:

1.Нарадзілася дзіця – атрымайце 70.000 долараў.

2.Стварылі сям'ю – яшчэ 64.000 долараў на набыццё кватэры.

3.Адукацыя і медыцына – бясплатныя.

4.Адукацыя і стажыроўка за мяжой – за кошт дзяржавы.

5.Вырашылі адкрыць уласны бізнес – вось вам аднаразовая матэрыяльная дапамога ў памеры 50.000 долараў.

6.Камунальныя паслугі ды плата за электрычнасць – адсутнічаюць.

7.Вырашылі набыць ва ўласнасць аўтамабіль – 50 працэнтаў яго кошту аплаціць дзяржава.

8.Крэдыты на набыццё аўтамабіля і кватэры – беспрацэнтныя (http://www.bolshoyvopros.ru/questions/1816883-pochemu-u-saudovskoj-aravii-nahodjatsja-sredstva-na-podderzhku-grazhdan.html).

Вядома ж, Саудаўская Аравія – не Беларусь, але імкнуцца да таго, што яна мае, мы павінны.

Дарэчы, сацыяльны блок у бюджэтах шэрагу еўрапейскіх краін дасягае 50–70 працэнтаў, а ў Беларусі – нейкіх няпоўных 20.

Аўтар артыкула, які выклікаў шквал эмоцый у Г.Давыдзькі, лічыць такі расклад беларускага бюджэту няправільным, а ў адказ пачуў: «Асадзі назад!..»

Што ж, дэмакратыя па-беларуску!

***Рэдакцыя газеты «Народная Воля».***

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Анна КРАСУЛИНА:
# «С послом Великобритании мы 40 минут обсуждали эту ситуацию…»

*30 ноября Анна Красулина – пресс-секретарь Объединенной гражданской партии, гражданка России, у которой с 2002 года есть вид на жительство в Беларуси, – согласно решению миграционной службы, должна на год покинуть нашу страну.*

*Анну, согласно официальным документам, высылают из Беларуси «в интересах общественного порядка». Основание для привлечения ее к административной ответственности – участие в двух несанкционированных массовых мероприятиях и неоплаченный проезд в автобусе. Все штрафы она заплатила полностью, при этом по первым двум случаям истек год с момента правонарушения, а по закону основанием для высылки являются три «административки» в течение одного года.*

Эта ситуация имеет огромный резонанс, сама Анна заявила, что будет оспаривать это решение. Мы поинтересовались у нее последними новостями по данному делу.

**– Анна, может, наши органы спохватились, поняли, что перемудрили, и отменили свое решение о вашей высылке из страны?**

– Новости приходят каждый день, но они пока на уровне, можно сказать, ощущений. Мне каждый день разные люди говорят про абсурдность обвинений в мой адрес, абсурдность ситуации, практически у всех ощущение, что власти откатят назад с моей высылкой. Но мне кажется, что время для оптимизма еще не пришло. Несколько дней назад был взломан мой аккаунт в мессенджере «Telegram». Мало того, что это абсолютно незаконно, это значит, что против меня в любой момент может быть организована провокация. Так что с отменой решения все не так просто.

Кроме того, под статьями о моей высылке, под моими интервью сразу появилось огромное количество комментариев «троллей». Это анонимные персонажи, задача которых – вызвать у читателя негативное отношение ко мне. Их аргументы однотипны, их набор ограничен: правильно, что ее высылают; человек с российским паспортом не имеет права заниматься политикой в Беларуси; раз она женщина, так пусть сидит дома и варит борщ и тому подобное. Эти комментарии лишены логики и последовательности – то меня называют агентом Кремля, то утверждают, что я работаю на американский Госдеп. Тон комментариев, как правило, злобный и оскорбительный. И это могло бы расстроить, если бы не очевидность того, что все это организованная кем-то кампания.

Одна из положительных сторон ситуации, в которой я оказалась, – это возможность убедиться, насколько замечательны наши люди! Мне постоянно звонят, поддерживают, спрашивают, чем помочь. Ни разу ни я, ни муж, ни сын с дочкой не ощутили отчуждения, настороженности…

**– Поддержка обычных людей – это, конечно, здорово! А есть ли реакция международных структур, России? Вы же обращались в посольство Российской Федерации…**

– Все высказались однозначно: решение о высылке не имеет законных оснований, то есть оно политически мотивировано. В общем, понятно: меня высылают, чтобы ослабить Объединенную гражданскую партию.

Это очевидно и для международного сообщества. Жозеф Доль, президент ЕРР (это крупнейшее объединение правоцентристских партий Европы, членом которого является и ОГП), в своем «Твиттере» призвал власти Беларуси пересмотреть решение о моей высылке – незаконное и негуманное. Все послы ЕС, работающие в Минске, следят за этим делом. Посол Ее Величества Королевы Великобритании Фиона Гибб *(на фото справа)* пригласила меня на личную встречу, мы 40 минут обсуждали эту ситуацию. Она пообещала передать информацию правительству Великобритании.

Посольство России я проинформировала о происходящем, описала факты. Слов «прошу защитить» или «прошу помочь» не писала, а только – «информирую», потому что я прекрасно понимаю, что они будут действовать исходя из собственных интересов, но не из моих. Меня пригласили в посольство 26 ноября на встречу на уровне начальника консульского отдела. Почувствуйте разницу – посол Ее Величества Королевы Великобритании и начальник консульского отдела посольства Российской Федерации.

**– Анна, как будете действовать дальше? В интервью «Народной Воле» вы говорили, что обязательно решение УВД Московского района Минска обжалуете в ГУВД Мингорисполкома, а если понадобится, то пойдете в суд…**

– Обязательно обжалую. Во все инстанции. Те же тролли уже кинулись писать: «Так она в суд не подала!..» Отвечаю: обязательно подам! Но сначала по этому делу надо подавать жалобу в городское управление внутренних дел. Мы с моим адвокатом ее уже подготовили, я подам ее 28 ноября. Если они своего решения не отменят, тогда – в суд.

Но в суд я буду подавать ближе к концу срока, отведенного для этого. Это не сократит сам срок высылки: он отсчитывается от момента выезда. Я делаю это для того, чтобы оттянуть срок отъезда и провести Рождество со своей семьей, а также подготовить какое-то место, куда можно поехать.

**– Есть какие-то варианты, как прожить год вдали от родных?**

– Непростой вопрос… Оттягиваю момент высылки и для того, чтобы найти работу. Ведь без работы в другой стране при отсутствии жилья я просто не выживу. Представляете себе: за месяц-два найти работу в чужой стране... Друзья, конечно, зовут в гости. Но «в гости» и год высылки – это не одно и то же.

Проанализировав ситуацию вместе с семьей и друзьями, мы пришли к выводу, что этот год не должен быть для меня потерян. Это можно сделать, например, если мне удастся пройти стажировку или поработать этот год, скажем, в парламенте или городском Совете в какой-нибудь европейской стране, чтобы серьезно пополнить свой опыт и знания о том, как работает реальная демократия, и вернуться в Беларусь вооруженной новыми знаниями и опытом. Тем опытом, который можно будет применить и в нашей стране. Английский у меня, к слову, свободный.

**– Родителям наконец-то сказали правду?**

– Сказала... Очень тяжелый был разговор. Папа был очень растерян – у мамы проблемы со здоровьем все серьезнее. Ей 78 лет. Диабет, нейропатия, ишиас… Она с трудом ходит. Один глаз у нее уже давно плохо видит, а недавно новая проблема появилась: на зрячем глазу начала развиваться катаракта. Еще до известия о высылке мы с ней запланировали визит к врачу в Минске. Это еще одна причина оттянуть отъезд…

Как и большинство родителей, мои папа и мама не хотят, чтобы их дочь занималась политикой – тем более в оппозиции, тем более при таком режиме. Понятно, что это постоянные риски. Но... Кто-то ведь должен! Вот я и борюсь вместе с моими товарищами по партии, чтобы каждый мог найти правду в справедливом суде, чтобы нас нельзя было вот так запросто уничтожать, наплевать на наши права и на Конституцию! Мы все, кто живет в Беларуси, имеем права! В том числе и право на защиту от произвола со стороны государства. И право на уважение. Я за это борюсь, и за это меня высылают.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Як актыўныя жыхары разварушылі цэлы мікрараён…

*Выйшаў першы нумар інфармацыйнага бюлетэня «Наша Альшанка», які пачалі выдаваць актывісты гродзенскага мікраёна. 299 асобнікаў фармату А4 раздрукаваны на хатнім прынтары.*

Мікрараён «Альшанка» знаходзіцца на аддаленасці ад Гродна практычна ў чыстым полі і падобны на асобны горад.

Галоўны рэдактар «Нашай Альшанкі» **Яўген Дудкін** *(на здымку)* распавядае, як узнікла ідэя заняцца самвыдатам: «*Як зазвычай, гродзенскія ўлады набудавалі жылых дамоў, а інфраструктура за гэтым не паспявае. У нас пакуль адна школа, дзе першых класаў амаль дваццаць, не стае садкоў, няма паўнавартаснай паліклінікі і г.д. Людзі з гэтымі праблемамі сутыкаюцца кожны дзень, а як уплываць на тое, каб інфраструктура як мага хутчэй змянялася на нашу карысць, многія не ведаюць. Нам вельмі хацелася прарваць гэты вакуум, зацікавіць людзей тымі праблемамі, ад вырашэння якіх непасрэдна залежыць жыццё іх сем'яў. Не ведаю, што з гэтага атрымаецца, але, па-мойму, самае важнае – паведаміць, што ёсць тыя, хто імкнецца вырашыць праблемы ў сваім мікраёне*».

Тэма першага нумара бюлетэня – вострая транспартная праблема. Надалей у планах асвятленне тэм будаўніцтва, ЖКГ, сацыяльных праблем. І абавязкова азнаямленне кіраўніцтва раёна і жыхароў з прапановамі саміх альшанцаў па той ці іншай тэме. Таксама ў планах выдаўцоў паведаміць чытачам гісторыю Альшанкі, распавесці пра сістэмы самакіравання ў суседніх краінах, узняць іншыя цікавыя і важныя пытанні.

Задача бюлетэня, паводле меркавання Яўгена Дудкіна, – наладзіць сталы дыялог з уладай, каб супольнымі намаганнямі чыноўнікаў і жыхароў вырашаць праблемы мікраёна.

«*Нам вельмі хочацца, каб улады дзейнічалі не за спінамі жыхароў Альшанкі, а важныя пытанні абмяркоўвалі з намі*, – кажа Яўген. –*Менавіта мы, звычайныя людзі, плацім падаткі, за кошт якіх потым і ўзводзіцца інфраструктура ў нашым мікраёне, а таму мы хочам, каб нашы грошы трапіліся на тое, што нам патрэбна*».

Напэўна, многіх цікавіць, за якія сродкі выдаецца бюлетэнь. Як распавёў рэдактар, пакуль выдаткі невялікія, хапіла грошай саміх членаў рэдакцыі: закупілі паперу і картрыдж для прынтара.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДА ВЕДАМА!

# З 1 снежня – штраф за летнія шыны

**«Жыццё даражэйшае за шыны», – такую назву мае прафілактычная акцыя Дзяржаўтаінспекцыі Беларусі, якая пачалася 26 лістапада.**

Акцыя, падкрэсліваюць у ДАІ, скіравана на папярэджанне і прафілактыку дарожна-транспартных здарэнняў і прапаганду выкарыстання ў аўтамабілях зімніх шын.

З 1 снежня кіроўцы, якія не «пераабулі» свае аўтамабілі на зіму, будуць аштрафаваны ў памеры 0,5 базавай велічыні (1 базавая – 24,5 рубля), а ў выпадку паўторнага парушэння – ад 2 да 5 базавых велічынь.

САЛІДАРНАСЦЬ

# Беларускія праваабаронцы тры дні правялі ў Чачні

**Алесь Бяляцкі** і **Сяргей Сыс** пабывалі з місіяй салідарнасці ў Чачні, дзе пяты месяц у Шалінскім гарадскім судзе разглядаецца крымінальная справа кіраўніка Грозненскага аддзялення «Мемарыяла» **Аюба Ціціева**.

Нагадаем, што чачэнскага праваабаронцу вінавацяць у незаконным захоўванні наркотыкаў у буйным памеры, што пагражае максімальным пакараннем – 10 гадамі пазбаўлення волі.

«*У судзе нас з Алесем Бяляцкім сустрэла ўзброеная аўтаматамі ахова і дагляд рэчаў*, – распавёў Сяргей Сыс на сайце spring96.org. – *Насцярожана і з цікавасцю вывучалі беларускія пашпарты. Акрамя аховы падчас працэсу ў памяшканні знаходзіліся судовыя прыставы. Адзін з іх, акрамя табельнага пісталета, меў аўтамат з падствольным гранатамётам*».

Алесь Бяляцкі *(на фота)* таксама, як і Аюб Ціціеў, лаўрэат прэміі Савета Еўропы імя Вацлава Гавела. З гэтай нагоды сумна жартуе пра тое, што праваабаронцы часта атрымліваюць прэміі праз турму:

«*Лепей бы не было такіх прэмій, але каб можна было вынікова працаваць на волі. Аднак аўтарытарныя і дыктатарскія рэжымы не даюць нам такой палёгкі. Выпрабаванне турмой кожнага з праваабаронцаў робіць нас яшчэ бліжэйшымі, і мы пачуваем сябе братамі*».

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Колькі будуць зарабляць будаўнікі?

Міністр архітэктуры і будаўніцтва **Дзмітрый Мікулёнак** заявіў, што 1 студзеня на 30–35 працэнтаў вырастуць заробкі ў будаўнікоў. Яго ведамства якраз цяпер рыхтуе адпаведны нарматыўны дакумент.

Трэба адзначыць, што ўжо зараз сярэднія заробкі ў будаўнічай галіне большыя, чым сярэдняя зарплата па краіне. Так, за кастрычнік у Беларусі сярэдняя налічаная зарплата работнікаў склала 999,7 рубля, а ў будаўнічай галіне – 1123,7 рубля. З 1 студзеня, трэба разумець, будаўнікі будуць атрымліваць у сярэднім 1,5 тысячы рублёў, альбо 715 долараў па курсе Нацбанка. Аднак у Польшчы, куды, паводле апошніх дадзеных, усё больш беларусаў накіроўваецца на працу, ужо ў першай палове гэтага года будаўнікам у сярэднім плацілі 1110 долараў у месяц.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# У гродзенскіх аўтасэрвісах загаварылі пра нястачу працоўных рук

*Руская служба ВВС паведаміла, што колькасць беларусаў, якія атрымалі запрашэнні на працу ў Польшчу, з 2014-га па 2017 год вырасла ў 14 разоў. У Гродне ў некаторых сферах пачалі адчуваць недахоп кваліфікаваных работнікаў.*

Адна з важнейшых прычын таго, што многія беларусы вымушаны шукаць шчасця за мяжой, зразумелая для ўсіх – сярэдні заробак у нашай краіне саступае польскаму амаль утрая: 460 долараў супраць 1200. Паводле дадзеных той жа службы ВВС, запрашэнні ад польскіх працадаўцаў у 2017 годзе атрымалі 58 тысяч беларусаў.

Дарэчы, беларусы з рабочымі спецыяльнасцямі едуць не толькі ў Польшчу, але і ў суседнюю Літву, іншыя краіны. Так, пасол Літвы ў Мінску Андрус Пулокас у інтэрв'ю аднаму беларускаму выданню паведаміў, што з пачатку года да сярэдзіны верасня сёлета іх амбасада выдала беларусам шэсць тысяч віз, якія даюць права на працаўладкаванне.

Хаця і вядома, што на працу за мяжу едуць людзі самых розных прафесій, але першымі голасна на гродзенскіх сайтах загаварылі аб нястачы кваліфікаваных работнікаў уладальнікі аўтасэрвісаў. Сайт autogrodno.by прыводзіць прыклад, што да іх у рэдакцыю звярнуліся сем кампаній з просьбай размясціць аб'яву аб пошуку супрацоўнікаў. Аб'яву, як канстатуе гродзенскі сайт, пабачылі 25 тысяч чалавек, а патэлефанавалі, з тым каб удакладніць умовы працы, усяго некалькі.

**Дзяніс Шадура**, які працуе ў аўтасэрвісе СТО «Тандэм», пацвердзіў «Народнай Волі», што праблема з работнікамі існуе і ў іх фірме, а пачалася яна яшчэ на пачатку лета.

«*Насамрэч многія спецыялісты з аўтасэрвісаў з'язджаюць працаваць у Польшчу*, – кажа спадар Шадура. – *Прычына ў заробках. Мы не можам плаціць тут кваліфікаванаму работніку такіх грошай, якія ён за тую ж працу можа атрымаць за мяжой*».

Шукаць замену кваліфікаваным работнікам, дзеліцца Шадура, у Гродне стала праблематычна. Ён кажа, што імкнуцца набіраць маладых хлопцаў пасля вучылішчаў, каледжаў, але гэта даволі няпросты працэс.

«*За апошнія амаль два гады ў нас былі на практыцы каля 10 хлопцаў, якія навучаліся ў вучылішчы і каледжы*, – згадвае Дзяніс. – *А ў выніку працаваць застаўся толькі адзін. Пабыў толькі некалькі месяцаў, а потым яго забралі ў войска*».

Паводле меркавання Дзяніса Шадуры, прафесійная падрыхтоўка аўтаслесараў пасля заканчэння вучылішчаў у многім не адпавядае патрабаванням часу.

«*Вось так і даводзіцца працаваць з тымі, хто ёсць*, – заўважае спадар Шадура. – *А што тычыцца па-сапраўднаму кваліфікаванага камп'ютаршчыка, які мог бы без памылак рабіць дыягностыку аўтамабіляў, дык такіх адмыслоўцаў цяпер ва ўсім Гродне некалькі чалавек. Даўно паз'язджалі, прычым не ў Польшчу, а ў ЗША, нават ведаю – і ў Арабскія Эміраты. Кваліфікаваны спецыяліст там добра зарабляе*».

Калега Дзяніса Шадуры спадар Аляксандр распавядае, што амаль паўгода шукае спецыяліста на шынамантаж – тэлефанаванняў па аб'яве амаль няма. А калі і тэлефануюць, то цікавяцца нават не ўмовамі працы, а тым, колькі будуць зарабляць.

«*Цяпер усё часцей да нас прыходзяць людзі «з запахам», даводзіцца з імі размаўляць, бо працаваць няма каму*», – дадае спадар Аляксандр.

Фірма **Іосіфа Лісоўскага** – СТА «Цір» – займаецца сэрвісным абслугоўваннем вялікагрузных цягачоў, якія выкарыстоўваюцца на міжнародных перавозках. Паводле яго слоў, праблема з кадрамі на іх прадпрыемстве апошні год стала таксама вельмі заўважнай.

«*Сапраўдныя спецыялісты адразу, як толькі знаходзяць працу за мяжой, з'язджаюць*, – распавядае спадар Іосіф. – *Праблема ў тым, што падрыхтаваць новага чалавека хутка не атрымліваецца. Зараз многія змяняюць працу, даводзіцца браць людзей, якіх трэба вучыць, а гэта таксама складанасці для фірмы*».

А яшчэ большая праблема, кажа спадар Іосіф, з кіроўцамі ў фірмах.

«*У невялікіх фірмах, дзе па 5–8 фураў, яшчэ неяк даюць рады, каб знайсці замену тым, хто адыходзіць з працы*, – распавядае Лісоўскі. – *Але я ведаю выпадкі, калі ў вялікіх фірмах за месяц адразу звальняюцца па восем кіроўцаў. Нашы хлопцы ездзяць альбо на польскіх, альбо на расійскіх фурах, заробкі там большыя, а таму вадзіцелі пры першай магчымасці імкнуцца з'язджаць за мяжу*».

Якая будучыня чакае ў далейшым аўтасэрвісы і фірмы, што займаюцца міжнароднымі грузаперавозкамі ў Гродне, іх уладальнікі не ведаюць. Найчасцей разводзяць рукамі і спасылаюцца на тое, што, маўляў, пажывём – пабачым.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

# Цэны даюць прыкурыць

*У Беларусі з 1 снежня падаражэюць некаторыя віды цыгарэт.*

Сярод цыгарэт вытворчасці ААТ «Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» найбольшае падаражанне чакае маркі «Фэст Superslims», «Фэст Superslims 7» – на 16 капеек. Цэны на Minsk City, Minsk Capital, Matrix Blue, Portal One вырастуць на 3 капейкі. Некаторыя віды Pall Mall, Kent і Rothmans стануць даражэйшымі на 5–10 капеек. За цыгарэты Vogue давядзецца заплаціць на 10 капеек больш.

Вырастуць цэны і на цыгарэты, выраблены ТАА «Тытунь-інвест». Некаторыя віды Monte Carlo падаражэюць на 5–10 капеек, а Camel Compact Activate Purple – на 10 капеек.

З цыгарэт, якія ўвозіць кампанія «Беларусьгандаль», на 10 капеек больш давядзецца заплаціць за Kent Mode Blue і Kent Mode Silver, Rothmans Demi Blue, Rothmans Demi Silver, на 5 капеек – за Pall Mall Superslims Azure і Pall Mall Superslims Violet.

ЯК ГЭТА БЫЛО

Сяргей НАВУМЧЫК

# Як віцябляне перамаглі АЭС

## 30 гадоў таму грамадскасці Віцебска ўдалося спыніць будаўніцтва атамнай станцыі.

Аднойчы Алесь Адамовіч, які ў ліку першых пачаў біць у чарнобыльскія званы, распавёў мне, як пасля аварыі на ЧАЭС старшыня Савета міністраў СССР Мікалай Рыжкоў завяршыў нейкую нараду словамі ўдзячнасці беларусам: «Пагутарыш з украінцамі – і адчуваеш сябе як высцісну лімон: аднаго ў іх не хапае, другога, тое ім дай, гэтае падкінь… Іншая справа беларусы – сказалі: нам нічога не трэба, з Чарнобылем самі справімся!»

І ўсё ж саюзны прэм'ер перабольшыў альтруізм кіраўнікоў БССР: сёе-тое яны ў Масквы папрасілі. А менавіта – атамную станцыю.

У 1987 годзе была прынята Пастанова ЦК КПСС і Савета міністраў СССР ад 1 ліпеня і сумесная пастанова ЦК КПБ, Саўміна БССР і Мінэнерга СССР ад 26 жніўня аб будаўніцтве Беларускай АЭС.

Пасля вывучэння некалькіх варыянтаў праекціроўшчыкі спыніліся на Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Праектныя работы ажыццяўляла кіеўскае аддзяленне інстытута «Атамэнергапраект».

### Чаму нельга было будаваць атамную станцыю

Гэты падзагаловак мусіў быць крыху іншым: «Чаму нельга будаваць АЭС увогуле». Бо, як і 30 гадоў таму, я застаюся перакананым праціўнікам атамнай энергетыкі, і ўзвядзенне Астравецкай АЭС лічу памылкай (дай Бог, каб памылка гэтая не стала катастрафічнай).

Але вернемся ў 1988 год.

Тэкст пастановы я, тады карэспандэнт газеты «Віцебскі рабочы», раздабыў пазней, а ў ліпені 1988-га толькі даведаўся, што АЭС збіраюцца будаваць і намеры гэтыя самыя сур'ёзныя: ужо нібыта бачылі вышукальнікаў-праекціроўшчыкаў у розных месцах Гарадоцкага раёна. За ноч напісаў артыкул «Мяжа» – паводле назвы адной з вёсак, каля якой свідравалі зямлю атамшчыкі.

Аргументацыя была наступная.

Па-першае, фактар экалагічны: на Беларускай АЭС планавалася ўсталяваць такія ж рэактары, якія былі на Чарнобыльскай (хаця і мадыфікаваныя), а значыць, над Віцебскам, як і над усёй Беларуссю, павісне пагроза новай катастрофы. Але нават і без такой пагрозы АЭС сама па сабе – гэта бомба пад будучым пакаленні: да гэтага часу не знойдзены спосабы поўнай утылізацыі ядзерных адходаў (так што за Астравецкую АЭС давядзецца расплачвацца нашчадкам).

Месца, абранае пад будаўніцтва, не было ідэальным з сейсмалагічнага пункту гледжання. У даведцы інстытута «Атамэнергапраект» пазначалася: «максімальна разліковы землятрус не перавышае 5–6 балаў». Каб рэактар пахіснуўся – дастаткова.

Па-другое, у будаўніцтве АЭС не было эканамічнай неабходнасці, Лукомльская электрастанцыя выпрацоўвала дастаткова энергіі – яе цалкам хапала на патрэбы Віцебшчыны ды і іншых абласцей. Мінатам СССР хацеў скарыстаць Беларусь як чарговую пляцоўку для сваіх эксперыментаў.

Па-трэцяе, дэмаграфічныя наступствы, якія непазбежна з'явіліся б у выпадку ўзвядзення новага «горада энергетыкаў». Гэта азначала б ужо поўнае, на дзясяткі кіламетраў, «вымыванне» вясковага насельніцтва на фоне вялікай колькасці прышлых з іншых рэспублік тагачаснага СССР.

Быў і яшчэ адзін аргумент, які не меў непасрэднага дачынення ні да ядзернай энергетыкі, ні да эканомікі, ні да дэмаграфіі. Гэта было абсалютнае ігнараванне ініцыятарамі будаўніцтва АЭС меркавання жыхароў Віцебшчыны. Як сказалі б цяпер – грамадскай думкі. У якім 1978 годзе на яе не звярнулі б увагі – ніхто ж ніколі не апытваў жыхароў Кіева ці Гомельшчыны, калі праектавалі Чарнобыльскую АЭС. Але на двары быў іншыя часы. І асабліва цынічна выглядала тое, што рашэнне размясціць у Беларусі АЭС было прынята ўсяго праз год пасля таго, як выбухнуў Чарнобыль.



1-ы сакратар Віцебскага абкама КПБ Уладзімір Грыгор'еў і журналіст Сяргей Навумчык падчас дыскусіі адносна будаўніцтва Беларускай АЭС. 24 лістапада 1988 г. Фота Уладзіміра Базана.

### Радыеактыўнае мяса – на беларускі стол. І не толькі на беларускі

У 1988 годзе інфармацыя пра рэальныя наступствы Чарнобыля заставалася засакрэчанай.

Праз два гады, калі я ўжо быў членам часовай камісіі Вярхоўнага Савета па ацэнцы дзеянняў службовых асоб у справе ўтойвання інфармацыі аб аварыі на ЧАЭС, нам удалося знайсці дакумент 1986 года, якім Саўмін БССР зацвердзіў магчымасць закупкі мяса без уліку радыеактыўнай забруджанасці. Вось цытата з афіцыйнай справаздачы нашай парламенцкай камісіі, якую на пасяджэнні Вярхоўнага Савета 13 чэрвеня 1991 года прачытаў старшыня камісіі дэпутат Рыгор Вячэрскі:

«Быў дадзены загад змешваць брудныя і чыстыя тушы жывёл у прапорцыях ад 1:10 да 1:1. Забруджанае мяса непрыхавана развозілася па краіне. Толькі са склада «Заходні», што ў Смалявічах, які наведала наша камісія, дзясяткамі і сотнямі тон забруджанае радыенуклідамі мяса было адгружана ў 55 пунктаў рэспублікі. Каля 2000 тон забруджанага радыенуклідамі мяса знаходзіцца ў гэтым сховішчы і сёння…»

Між іншым, у адной з паўднёвых рэспублік адмовіліся прымаць эшалон з беларускім мясам пасля таго, як праверылі яго на радыеактыўнасць. Эшалон вярнулі ў Мінск з рэкамендацыяй: мяса знішчыць, а вагоны падвергнуць дэзактывацыі.

Але гэтыя і падобныя факты былі абнародаваны пазней. А тады, у 1988-м, да нас глуха даходзілі толькі чуткі.. Ну а тых, хто спрабаваў даведацца праўду, білі па руках.

### Начальства робіць выбар

Мой артыкул «Мяжа» так і не быў апублікаваны. Рэдактар «Віцебскага рабочага» катэгарычна адмовіўся: «Не варта нагнятаць страсці і пужаць людзей». Некалькі раздрукаваных пад капірку асобнікаў я раздаў сябрам. Але ўжо праз пару тыдняў бачыў свой тэкст у руках зусім незнаёмых людзей – нехта памножыў яго на ратапрынтах.

Шчыра кажучы, у мяне зусім не было намеру займацца арганізацыяй шырокага грамадскага пратэсту. Тэмы, якія мяне ў той час цікавілі, – рэстаўрацыя архітэктурных помнікаў і тэатр (нават атрымаў запрашэнне ад рэктара Тэатральна-мастацкага інстытута ў аспірантуру на спецыяльнасць «тэатразнаўства»). Палітыкі я наеўся, служачы ў войску, і быў упэўнены, што з «дэмбелем» яна для мяне скончылася.

Так бы і здарылася, калі б не пазіцыя тагачаснага кіраўніцтва Віцебскай вобласці, найперш – сакратара абкама партыі **Уладзіміра Грыгор'ева.**

Як ні дзіўна, але першым пра магчымае будаўніцтва АЭС на Віцебшчыне паведаміў сам Грыгор'еў, выступаючы ў чэрвені 1988 на сустрэчы дэлегатаў XIX партканферэнцыі з прадстаўнікамі грамадскасці. Ён нават выказаў сумнеў у мэтазгоднасці такога праекта. Але неўзабаве змяніў пазіцыю і пачаў абвяргаць сам факт намеру такога будаўніцтва: маўляў, ніякую атамную станцыю будаваць на Віцебшчыне не збіраюцца, усё гэта плёткі безадказных асоб, якія такім чынам імкнуцца здабыць сабе палітычны капітал.

Тут варта сказаць пра самога Грыгор'ева, які быў адным з цэнтральных персанажаў той «атамнай» гісторыі. (Гэта цікава ў кантэксце наступных падзей: у 1990-м на з'ездзе КПБ Грыгор'еў прэтэндаваў на месца 1-га сакратара ЦК КПБ, а значыць, у крытычныя дні жніўня 1991-га ад яго шмат што залежала б у лёсе Беларусі.)

Уладзімір Грыгор'еў быў прысланы ў Віцебск на пасаду 1-га сакратара абкама, калі яму было 45 гадоў, і гэта, безумоўна, сведчыла пра бліскучую кар'еру, значная частка якой прайшла на камсамольскіх пасадах, аж да першага сакратара ЦК ЛКСМБ і сакратара ЦК саюзнага камсамола. Папрацаваў Грыгор'еў і ў апараце ЦК КПСС, адкуль, з падачы Лігачова быў накіраваны ў Віцебск. Новая пасада была пляцдармам для яшчэ больш высокага кар'ернага ўзлёту – які палітык не імкнецца ўзняцца вышэй?

А быў Уладзімір Грыгор'еў не гаспадарнікам, а менавіта палітыкам з разлікам на знешні эфект. Ён любіў эфектныя акцыі, якія патэнцыяльна маглі прыцягнуць увагу найперш саюзнай прэсы. Напрыклад, ініцыяваў стварэнне ў Віцебску 15 кавярняў-рэстаранаў у нацыянальных каларыце 15 саюзных рэспублік (калі не памыляюся, кіраўнікі гарадскога грамадскага харчавання выдаліся на сёмым, узбекскім, аб'екце – дэфіцыт прадуктаў тады ўжо істотна адчуваўся).

Аднак бясспрэчным плюсам Грыгор'ева былі ўменне слухаць апанентаў (хаця і не заўсёды) і здольнасць пераглядзець сваю пазіцыю. Так было, калі паўстала пагроза знішчэння гістарычнай забудовы горада, гэтак здарылася і з Шагалам – тут Уладзімір Віктаравіч здолеў эвалюцыянаваць ад абвінавачвання вялікага мастака ў «самым рэакцыйным сіянізме» да спрыяння стварэнню музея Шагала і арганізацыі «Шагалаўскіх чытанняў».

А вось у сітуацыі з Віцебскай АЭС у Грыгор'ева мужнасці не хапіла. Пры тым, што ён быў зусім не ў захапленні ад перспектывы ўзвядзення атамнай станцыі на тэрыторыі вобласці – хаця б таму, што доўгае, не на год і не на два, будаўніцтва не абышлося б без хутчэй палітычных дывідэндаў.

Не ўспрыняў ідэю будаўніцтва АЭС і тагачасны старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Кулакоў, але ўжо з рацыянальных прычын: для энергазабеспячэння вобласці хапала Лукомльскай электрастанцыі. Свае сумневы ён нават выказаў на сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Як мне потым стала вядома, Кулакоў спрабаваў давесці сваю пазіцыю да рэспубліканскага кіраўніцтва і «кулуарным» спосабам, але атрымаў водпаведзь.

Вось тут бы Грыгор'еву і звярнуцца па дапамогу да грамадства: маўляў, давайце аб'яднаем намаганні і разам адаб'ёмся ад «ядзернага падарунка». Гэта магло стаць стартам у самую што ні ёсць вялікую палітыку (успомніць хаця б прыклад Ельцына), але і было куды больш шанцаў зламаць сабе шыю. І Уладзімір Віктаравіч зрабіў свой выбар: стаў заяўляць, што ніякага будаўніцтва АЭС на Віцебшчыне не плануецца, спадзеючыся, што праблема ссцішыцца сама сабой.

### Актывісты таксама робяць выбар

Але не ссцішылася.

Мы ўтварылі ініцыятыўную групу, куды ўвайшлі выкладчыкі тэхналагічнага інстытута **Эсфір** і **Валянцін Арловы**, загадчык кафедры гэтага ж інстытута **Іван Сціпанаў**, інжынер **Аляксандр Берагейка** і ягоная жонка **Тацяна**, работнікі **Сяргей Цярэнцьеў** і **Уладзімір Шанец**, навуковец **Юрый Хлопкаў**, настаўнік **Мікалай Намеснікаў**, актывісты клуба «Узгор'е» доктар **Міхась Паўлаў** і археолаг **Ігар Цішкін**…

Нягледзячы на тое, што поўнай упэўненасці ў перамозе ў нас не было (пастановы ЦК ніколі не адмяняліся, а тых, хто выступаў супраць, станавіліся «лагерным пылам»), настроены мы былі рашуча. Вырашылі апеляваць непасрэдна да жыхароў горада, а менавіта – збіраць подпісы. І – максімальна шырока інфармаваць грамадства пра небяспеку АЭС, што было на мне як на журналісце.

Памятаю, доўга думаў над фармулёўкай звароту, пад якім трэба было збіраць подпісы, зрабіў дзясятак варыянтаў з рознай аргументацыяй, але ніводны не задавальняў. Вырашыў, што тэкст мусіць быць максімальна лаканічны: «Мы супраць будаўніцтва Беларускай АЭС і планаў размяшчэння яе на тэрыторыі Віцебскай вобласці!» У выніку пад гэтымі словамі падпісаліся каля 40 тысяч віцьблян – здаецца, тое была першая ў гісторыі Беларусі такая маштабная грамадская акцыя.

### Артыкул здымаюць з паласы, пікетоўшчыкаў затрымліваюць

Сама ж барацьба супраць АЭС разгортвалася імкліва і даволі драматычна.

29 верасня галоўны рэдактар «ЛіМ» **Анатоль Вярцінскі** надрукаваў мой артыкул «Мяжа», што яшчэ больш разлавала абласное начальства.

Разам з Валянцінам Арловым і фатографам Уладзімірам Базанам мы паехалі ў Гарадоцкі раён. Некалькімі днямі раней Аляксандр Берагейка нарэшце знайшоў пляцоўку, на якой поўным ходам ішлі геолага-разведачныя работы пад будучы катлаван. Базан зрабіў здымкі, я напісаў вялікі артыкул і аддаў яго рэдактару «Віцебскага рабочага» Уладзіміру Скапе.

18 кастрычніка Уладзімір Грыгор'еў прыйшоў на партыйны сход у нашу рэдакцыю. «Можаце друкаваць, грамадства трэба ўздымаць супраць АЭС!» – нечакана заявіў першы сакратар абкама, і мы разам з **Тадзіянай Тодараўнай Кляшторнай** са спакойным сэрцам паехалі ў Мінск, дзе назаўтра ў Чырвоным касцёле адбылося пасяджэнне, на якім былі ўтвораны «Мартыралог Беларусі» і Аргкамітэт БНФ.

У пятніцу 21 кастрычніка мой нарыс «Чорная багна» (паводле назвы мясцовасці, дзе збіраліся будаваць АЭС) быў набраны і завёрстаны на 3-ю паласу суботняга нумара «Віцебскага рабочага». Аднак у 18 гадзін Грыгор'еў патэлефанаваў рэдактару і загадаў матэрыял зняць. З-за гэтага выпуск на некалькі гадзін затрымалі, а назаўтра на месцы майго артыкула выйшаў сумнавядомы пасквіль «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», у якім апляўдаваліся «Талака», **Вінцук Вячорка** ды іншыя, як нас тады называлі, нефармалы.

У газеце было змешчана і інтэрв'ю з першым намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімірам Цацохам, у якім на пытанне ананімнага карэспандэнта, ці праўда, што збіраюцца будаваць АЭС, той адказаў: «Чуткі носяць правакацыйны характар і не маюць пад сабой сур'ёзных падстаў. Яны распаўсюджваюцца асобнымі безадказнымі грамадзянамі з мэтай нагнясці абстаноўку, стварыць напружаную атмасферу ў працоўных калектывах…». (Пазней Цацоха прызнаўся, што сам упершыню даведаўся пра гэтыя «свае» словы, узяўшы ў рукі газету. Сапраўдны аўтар публікацыі так і застаўся невядомы.)

Тады ж я напісаў адкрыты ліст Грыгор'еву, запытаўшыся, калі ж кандыдат у члены ЦК КПСС быў шчыры – у рэдакцыі ці калі загадаў зняць матэрыял з нумара? У лісце я запатрабаваў неадкладна спыніць разведачныя работы ў Гарадоцкім раёне, выбачыцца перад членамі ініцыятыўнай групы і тысячамі віцьблян, якія паставілі свае подпісы пад зваротам супраць АЭС, спыніць пераслед студэнтаў педагагічнага інстытута, якіх 20 кастрычніка міліцыя затрымала за збор подпісаў.

### Станюта і Быкаў супраць АЭС

2 лістапада ў маскоўскай «Литературной газете» быў надрукаваны ліст беларускіх пісьменнікаў з пратэстам супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС. Яго падпісалі **Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Пімен Панчанка, Віктар Казько, Аляксей Дудараў, Уладзімір Арлоў, Сяргей Законнікаў.**

А яшчэ мне перадалі лісты з подпісамі акцёраў – віцебскіх «коласаўцаў» і мінскіх «купалаўцаў», у тым ліку **Стэфаніі Станюты**. Тое было моцнай падтрымкай для нас!

7 лістапада на кастрычніцкай дэманстрацыі з'явіліся транспаранты «Мы – супраць Віцебскай АЭС!». Ініцыятыўная група, ва ўсялякім разе яе ядро, не мела да гэтага дачынення: людзі самі намалявалі такія лозунгі і, не паддаўшыся на ўгаворы і пагрозы кіраўнікоў прадпрыемстваў, разагнулі іх у калонах.

Грыгор'еў загадаў даставіць мяне да яго на гутарку. У кабінеце першага сакратара абкама прысутнічала і партарг нашай рэдакцыі Ніна Тулінава. Размова была даволі жорсткая з абодвух бакоў. Было бачна, што гаспадар кабінета ледзь стрымлівае сябе. Ён катэгарычна запатрабаваў спыніць збор подпісаў і ўвогуле згарнуць кампанію супраць АЭС. Я сказаў, што не бачу ніякай магчымасці гэта зрабіць, і параіў Грыгор'еву падтрымаць грамадскі антыядзерны рух.

Развіталіся мы кожны пры сваім меркаванні.

### Віцэ-прэм'ер як некампетэнтная асоба

І раптам у сярэдзіне лістапада мінскія газеты надрукавалі гутарку з намеснікам старшыні Савета міністраў **Л.Фірысанавым** і кіраўніком «Белэнерга» **Г.Хартановічам**, у якой тыя прызналіся: так, рашэнне пра будаўніцтва АЭС прынята, бо… Далей ішоў пералік аргументаў, чаму яе трэба будаваць.

Пасля гэтага нікога агітаваць было не трэба. На віцебскіх прадпрыемствах адбываліся стыхійныя сходы, людзі заклікалі правесці агульнагарадскі мітынг з патрабаваннем адстаўкі тых, хто хлусіў ім у вочы.

І тады рэспубліканскае і віцебскае кіраўніцтва выступіла дуплетам.

24 лістапада 1998 г. «Звязда» надрукавала паведамленне «У ЦК Кампартыі Беларусі і Савеце Міністраў БССР»: «…Віцебскаму абкаму КПБ і аблвыканкаму правесці тлумачальную работу з насельніцтвам аб тым, што рознага кшталту некампетэнтныя сцвярджэнні аб будаўніцтве АЭС не маюць падстаў, а толькі адцягваюць людзей ад выканання вялікіх і складаных праграм, намечаных XXVII з'ездам КПСС, XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй і XXX з'ездам Кампартыі Беларусі».

Здагадваюся, з якімі пачуццямі чыталі гэтую заяву віцэ-прэм'ер Фірысанаў і кіраўнік «Белэнерга» Хартановіч, якія некалькімі днямі раней «некампетэнтна сцвярджалі», што АЭС будзе будавацца.

### Аўтадафэ не атрымалася

Загад ЦК Грыгор'еў выканаў у той жа дзень – у актавай зале тэхналагічнага інстытута сабралі прадстаўнікоў грамадскасці, запрасілі і нашу ініцыятыўную групу. Прыехала і абласное тэлебачанне – здымаць палітычнае фіяска «нефармалаў».

Грыгор'еў ізноў заявіў, што «ніякага будаўніцтва АЭС на тэрыторыі Віцебскай вобласці не планавалася і не плануецца». Мне прыйшлося выйсці на трыбуну і працытаваць фрагмент сумеснай пастановы ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР і Мінэнерга СССР аб будаўніцтве станцыі.

«Я такой пастановы ЦК не ведаю!» – гэтыя словы члена абодвух ЦК (саюзнага і беларускага) патанулі ў абураных галасах аўдыторыі.

Але потым выступіў выкладчык тэхналагічнага інстытута М.Сямёнаў: два дні таму ён быў у Гарадоцкім раёне, на свае вочы бачыў групу вышукальнікаў «Кіеўатамэнерга», тэхніку, свідравальныя машыны. Калі Сямёнаў расказаў, што праекціроўшчыкі маркуюць пераправіць возера Вымна ў «акумулятар вады», набіраючы яе з Дзвіны, а потым, пасля выкарыстання на АЭС, скідваць ваду назад у Дзвіну, зала выбухнула абурэннем.

Тэлевізійнай групе далі каманду згортвацца: было зразумела, што ніякага рэпартажу з аўтадафэ над «безадказнымі асобамі» не атрымаецца.

Мы перамаглі.

Наколькі мне вядома, Грыгор'еў быў вымушаны звязвацца з Масквой і патрабаваць спынення вышукальных прац, паколькі сітуацыя ў Віцебску можа выйсці з-пад кантролю.

На Віцебскай АЭС была пастаўлена кропка.

### Бо не пабаяліся

Чаму віцьблянам 30 гадоў таму ўдалося дамагчыся адмены пастаноў ЦК і ўрада аб будаўніцтве АЭС?

Думаю, немалую ролю ў гэтым адыграла бескампраміснасць і самаадданасць членаў віцебскай ініцыятыўнай групы, гатоўнасць людзей, імёны якіх я назваў вышэй, ісці, што называецца, да канца.

Але гэтыя намаганні не мелі б выніку, калі б самі віцябляне не адчувалі адказнасці за ўласны лёс і лёс сваіх нашчадкаў.

І быў яшчэ адзін вельмі важны фактар: у людзях пачало абуджацца пачуццё ўласнай годнасці, перад якім адступаў страх. Абурыўшыся тым, што начальства, напляваўшы на чарнобыльскую бяду, адкрыта хлусіць, віцябляне перасталі баяцца казаць праўду ў вочы самым высокім кіраўнікам. Яшчэ праз год беларусы выйшлі на плошчы, выбралі сваіх дэпутатаў і ў 1991 годзе дамагліся Незалежнасці.

Мей рацыю Папа Ян Павел II, калі звяртаўся да суайчыннікаў са словамі: «Не бойцеся!»

---

СТАЛІЦА

### У Мінску пабудуюць 20-кіламетровую веладарожку

*У наступным годзе пачнецца будаўніцтва трох участкаў веладарогі.*

У парку Цівалі (непадалёк ад станцый метро «Спартыўная» і «Кунцаўшчына») працягласць складзе кіламетр. Невялікі кавалак дадасца ад аквапарка «Лебядзіны» ў бок МКАД.

Але галоўная велабудоўля – дарожка ад вуліцы Ташкенцкай у Чыжоўцы да Цнянскага вадасховішча ў Зялёным Лузе. Гэта каля 20 кіламетраў, паведамляюць «Мінск-Навіны».

З цягам часу маркуецца зрабіць і кальцавую для аматараў веласпеднага руху. Яна звяжа 5 паркаў горада.

ЖАХ!

### Патанулі два рыбакі

Здарэнне адбылося ў Івацэвіцкім раёне на возеры Вулькаўскім у нядзелю.

Мужчына, які рыбачыў на возеры, пачуў дзіўныя гукі і зацікавіўся імі. Прыкладна за 70 метраў ад берага ён знайшоў цела мужчыны і выклікаў ратавальнікаў. Неўзабаве супрацоўнікі МНС знайшлі непадалёк яшчэ адзін труп мужчыны і драўляную лодку, напоўненую вадой.

Паведамляецца, што загінулі 40-гадовы і 43-гадовы жыхары гарадскога пасёлка Целяханы. Паводле інфармацыі БЕЛТА, Следчы камітэт пачаў праверку па факце іх гібелі. Прычыну смерці назавуць эксперты.

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

### Тэлевізар два разы рамантавалі

*Набыл тэлевізар, але, відаць, зусім няўдалы. За восем месяцаў ужо два разы аддавалі ў рамонт (праблема адна і тая ж – з экранам). Ці можна яго абмяняць на іншы?*

**Валерый ЛІПСКІ, г.Кобрын.**

– Можна, бо пры ры рамонце выявіліся адны і тыя ж дэфекты. Таму пішыце заяву на абмен тавару.

### З'явіліся праблемы з абшыўкай

*Набыла канапу, вельмі спадабалася колер абшыўкі. Але за лета гэтая самая абшыўка выцвіла і зараз, праз паўгода пасля пакупкі, стала ўжо зусім іншага колеру, які мне не падабаецца. Ці можна вярнуць канапу ў магазін?*

**Святлана МАЦВЕЕВА, г.Ліда.**

– Можна, бо ў працэсе выкарыстання тавару выявіліся дэфекты няякаснай афарбоўкі. Гэта вытворчая недапрацоўка.

### Зламаўся таймер

*Купілі кухню, у камплект уваходзіў і гадзіннік-таймер. Ужо праз паўгода ён зламаўся. Ці можна прад'явіць прэтэнзіі прадаўцу?*

**Мікалай ГАЛЬЧАНЮК, г.Слуцк.**

– Безумоўна. Можаце аформіць адмову ад рамонту і запатрабаваць, каб вам паставілі новы таймер.

ФУТБОЛ

# Інтрыга да апошняга…

*Да заканчэння чэмпіянату Беларусі па футболе застаецца адзін тур.*

Калі пытанне залатых медалёў было вырашана барысаўскім БАТЭ датэрмінова, то размеркаванне серабра і бронзы адбудзецца толькі ў апошнім туры. А значыць, інтрыга захоўваецца да апошняга! І пакуль на гэтыя ўзнагароды прэтэндуюць адразу тры каманды – мінскае «Дынама», салігорскі «Шахцёр» і «Віцебск».

Вось вынікі матчаў 29-га тура: «Тарпеда» (Мінск) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 0:2, «Днепр» (Магілёў) – «Дынама» (Мінск) – 0:3, «Слуцк» – «Іслач» (Мінскі раён) – 0:1, «Віцебск» – «Гарадзея» – 1:0, «Дынама» (Брэст) – «Гомель» – 0:0, «Мінск» – «Нёман» (Гродна) – 1:2, «Смалявічы» – «Шахцёр» (Салігорск) – 0:2, БАТЭ (Барысаў) – «Прамень» (Мінск) – 4:1.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 29 | 23 | 3 | 3 | 53–22 | 72 |
| Шахцёр | 29 | 18 | 7 | 4 | 41–14 | 61 |
| Дынама (Мн) | 29 | 17 | 9 | 3 | 38–17 | 60 |
| Віцебск | 29 | 18 | 5 | 6 | 44–19 | 59 |
| Тарпеда-БелАЗ | 29 | 16 | 6 | 7 | 34–16 | 54 |
| Дынама (Бр) | 29 | 13 | 10 | 6 | 49–30 | 49 |
| Нёман | 29 | 12 | 7 | 10 | 31–29 | 43 |
| Слуцк | 29 | 11 | 3 | 15 | 26–34 | 36 |
| Гарадзея | 29 | 8 | 7 | 14 | 29–33 | 31 |
| Мінск | 29 | 7 | 9 | 13 | 34–38 | 30 |
| Іслач | 29 | 7 | 9 | 13 | 17–35 | 30 |
| Гомель | 29 | 7 | 7 | 15 | 15–33 | 28 |
| Тарпеда | 29 | 6 | 6 | 17 | 20–38 | 24 |
| Смалявічы | 29 | 5 | 8 | 16 | 20–38 | 23 |
| Прамень | 29 | 4 | 11 | 14 | 23–43 | 23 |
| Днепр | 29 | 3 | 7 | 19 | 15–50 | 16 |



**P.S.** *У апошнім, 30-м, туры 2 снежня згуляюць: «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – БАТЭ, «Прамень» – «Смалявічы», «Шахцёр» – «Мінск», «Нёман» – «Дынама» (Брэст), «Гомель» – «Віцебск», «Гарадзея» – «Слуцк», «Іслач» – «Днепр», «Тарпеда» (Мінск) – «Дынама» (Мінск).*

ПАМЯЦЬ

# Помнікі Нілу Гілевічу

На сталічных Кальварыйскіх могілках у мінулую пятніцу быў адкрыты помнік на магіле Ніла Гілевіча. Асновай для яго скульптар Ігар Засімовіч абраў лагойскі валун, прывезены з радзімы народнага паэта. Адкрыццё было шматлюдным, над прысутнымі луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Нягледзячы на раптоўна памацнелы мароз, жалобны мітынг зацягнуўся – многія з прысутных пажадалі сказаць слова ўдзячнасці. Пры помніку прамаўлялі сын і брат паэта Сяргей Гілевіч і Мікола Гіль, акадэмік Радзім Гарэцкі і паэт Анатоль Вярцінскі, мастак Рыгор Сітніца і літаратуразнавец з Мазырскага ўніверсітэта Тамара Нуждзіна, дзейны старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і былы старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы» Алег Трусаў…

Ці не ўсе выступоўцы, гаворачы пра веліч зробленага Нілам Гілевічам, згадвалі і пра яго 23-кніжжа – збор твораў, які ён выдаў за ўласную пенсію.

І мне падумалася: гэта таксама помнік. Не менш вечны, чым лагойскі валун на Кальварыі. Помнік працаздольнасці паэта, ягонаму таленту. Бо насамрэч тыя 23 тамы – падзея сапраўды ўнікальная за ўсе 500 гадоў беларускага кнігавыдання, сагрэтага скарынаўскім сонцам маладзіковым. Але нават Скарыну было, відаць, лягчэй выдаць 22 кнігі Бібліі – спрыяў жа яму «сын радцы места віленскага» Багдан Онкаў. А народнаму паэту давялося разлічваць толькі на сябе – не знайшлося ні смелага фундатара, ні спрытнага выдаўца.

Памятаю, мы гутарылі з Нілам Сымонавічам пра яго 23-кніжжа, і я заўважыў, як мой суразмоўца зрэдку кідаў позірк на тыя васількавага колеру тамы – як фельдмаршал на пашыхтаваныя палкі.

Першы том выйшаў накладам 500 асобнікаў. Апошні – усяго 70. Нават ва ўсе раённыя бібліятэкі тыя тамы ў поўнай камплектацыі не патрапілі. І каго тут вінаваціць? Хіба пенсіённы фонд – за малую пенсію… Што ж, будзем спадзявацца, у лепшыя часы Гілевічаў Збор твораў хтосьці размножыць, каб усім хапіла.

Той 23-томнік – адначасова антыпомнік і палахлівым дзяржаўным выдавецтвам, для якіх народны паэт зрабіўся персонай non grata. Цягам апошніх гадоў дваццаці пяці ён выдаваў свае вершы (як правіла, яны праходзілі апрабацыю на старонках «Народнай Волі») бібліяфільскімі накладамі. Зборнікі дарыў сябрам, якіх адмыслова для гэтага запрашаў да сябе дахаты. Так пабачылі свет «Дзверы ў гісторыю», «Замова ад страху», «У ноч на Пакровы», «З Божай ласкі – дасеўкі», «Эпіграмы» (да іх мне выпаў гонар напісаць прадмову).




На Кальварыі выступоўцы гаварылі і пра тое, што Гілевіча, як нікога з паэтаў-сучаснікаў, чыталі ўсе – і акадэмікі, і даяркі. Што гэта сапраўды так, неаднойчы давялося пераканацца і мне. Помню, парымся ў сяброўскай лазні ў родным маім Дзярэчыне, і раптам галоўны інжынер мясцовага калгаса Уладзімір Бартош пачынае чытаць «Сказ пра Лысую Гару». Аказалася – ён ведае ўсю паэму на памяць!

А знаёмы настаўнік з Зэльвеншчыны аднойчы напрамілы бог папрасіў дастаць (як за савецкім часам даставалі якога-небудзь Дзюма!) Гілевічаў зборнік «Дзверы ў гісторыю». Зямляк быў на курсах у сталіцы, там нехта чытаў услых гэту кнігу – спадабалася і фізікам, і лірыкам. Настаўнік мне так і напісаў: *«Творчасць Ніла Гілевіча – мой тут галоўны аргумент у мястэчковых дыскусіях пра пакручастыя шляхі айчыннай гісторыі. Дзе не даходзіць слова празаічнае, спрацоўвае трапная і дасціпная эпіграма: «Дзверы ў гісторыю вузкія вельмі – / цяжка праходзяць і людзі, і шэльмы. / Дзверы ж адтуль – шырэй за вароты: / вылеціш вон – і не ўспомняць, хто ты».*

Творчасць Ніла Гілевіча – як аргумент… Адразу згадваецца паэт Анатоль Вярцінскі, які, нібы падслухаўшы зэльвенскага настаўніка, напісаў верш пад назвай «Здарэнне ў Судны дзень, альбо Ніл Гілевіч як аргумент». Каб не цытаваць гэты вялікі (ва ўсіх сэнсах!) твор, коратка перакажу яго змест.

Сын Божы судзіў народы, якія размаўлялі з ім на сваіх мовах. Калі ж дайшла чарга да беларусаў, найвышэйшы суддзя мусіў перапытаць: *«Дык вы – беларусы?»*. Адказ прагучаў бязладна і не задаволіў Сына Божага. Тады ён запатрабаваў назваць беларуса, *«хто мову родную прыняў з маленства / як запаветны скарб, як Божы дар, / хто потым на шляху жыццёвым / быў верны ёй і вусна, і пісьмова, / быў верны ёй і ў радасці, і ў горы, / быў верны ёй у мроях і ва ўчынках, / хто ні на хвілю уявіць не мог / свой лёс і лёс свайго народа / без мовы роднай…»*. І назвалі беларусы імя Ніла Гілевіча, і прынеслі да Хрыстовага пасаду ўсе кнігі паэта ўключна з галоўным аргументам Гілевічавай вернасці роднай мове – кнігай «Любоў прасветлая». *«І склаўся з кніг тых велічэзны стос – дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос»*. І – змяніў гнеў на літасць. Так былі ўратаваны беларусы ад апраметнай.

Ніла Гілевіча ў такой – біблейскай – іпастасі заўважыла (яшчэ ў 1965 годзе!) і Ларыса Геніюш. У адным з лістоў да літаратуразнаўцы Міколы Прашковіча яна трапна заўважыла, што ў Беларусі ёсць свой Ніл – «жывіцель пустэльні».

«Жывіць пустэльню» – праца велічэзная, яна пад сілу толькі волатам-рэкам і волатам-паэтам. З усіх бакоў наступаюць пяскі, а трэба зберагчы і памножыць аазісы. Ніл Гілевіч свае аазісы збярог і памножыў – аазіс веры ў свой вечны народ, аазіс любові да сваёй святой зямлі, аазіс, у якім ад сухмені ратуецца мова. Бо, калі мову як нацыянальную каштоўнасць не ахоўвае закон, яе зберагуць дасканалыя творы, напісаныя на ёй. А менавіта той стос, на які глядзеў і дзівіўся Хрыстос.




Успамінаецца мне і адна паездка на маю радзіму. У 2005 годзе мы з Нілам Гілевічам, Эдуардам Акуліным і Сяргеем Чыгрыным выступалі на Зэльвеншчыне – у Галынкаўскай і Елкаўскай сярэдніх школах, а потым заехалі ў маю родную вёску, дзе нас сустрэла мама. 13 гадоў з тае пары мінула, а яна ў кожны мой прыезд усё згадвае таго «папраўдзі добрага паэта, які пісаў так жалосна».

Не толькі жалосна, мама! Але і громагалосна, калі даваў адпор ворагам беларушчыны. І мілосна, калі прызнаваўся ў сваёй вялікай і бясконцай любові – адзінай жанчыне і адзінай айчыне...

Зямны шлях грамадзяніна Беларусі Ніла Гілевіча закончыўся пад шэрым валуном на Кальварыйскіх могілках. Творчы шлях народнага паэта Ніла Гілевіча падвынікаваны Зборам твораў у 23 тамах. Гэта два велічныя помнікі, і немагчыма сёння прадказаць, які з іх больш вечны – камень ці слова?

Акадэмік-геолаг Радзім Гарэцкі патлумачыў мне на могілках, што лагойскі валун надзвычай трывалай пароды, яму не страшны ні маразы, ні спёка.

Але ж і слова Ніла Гілевіча таксама «трывалай пароды». Яго творчасць можа ажывіць яшчэ не адну пустэльню, каб з'яўляліся і размнажаліся на роднай зямлі аазісы любові да беларушчыны.

**Міхась СКОБЛА.**

ПЕРСОНА

# «Хросны бацька» беларускага каратэ

*Сёлета беларускаму каратэ стукнула сорак гадоў. З лістапада 1978-га, калі каратэ было афіцыйна прызнана ў Беларусі, шмат вады сплыло.*

*Алег Барысавіч Кірыенка быў адным з тых, хто пачынаў каратэ ў Беларусі. Ён ведае, як усё пачыналася, ён помніць, як каратэ трапіла пад забарону, ён радуецца, што від спорту, якому ён аддаў дзясяткі гадоў жыцця, нарэшце ўключаны ў праграму наступных Алімпійскіх гульняў.*

*Мы сустрэліся з Алегам Кірыенкам на турніры, прысвечаным 40-годдзю айчыннага каратэ…*

– Насамрэч першыя заняткі каратэ пачаліся ў Мінску яшчэ ў 1974-м, – *узгадвае Алег Барысавіч.* – Каратэ прывёз сюды Аляксандр Кажамякін. Мы з ім землякі – абодва з горада Унеча, што на Браншчыне. Ён паступіў у Мінскі інстытут фізічнай культуры ў 1974-м, я – праз год. З гэтага ўсё і пачалося. Набіраліся групы энтузіястаў, мы сталі займацца. Так што называць мяне адзінаасобным пачынальнікам беларускага каратэ не зусім правільна. Я быў не адзіным, з каго ўсё пачалося.

А ўвогуле пра каратэ я даведаўся ў 1968-м. Тады на экраны выйшаў фільм «Геній дзюдо». Там былі кароценькія эпізоды, звязаныя з гэтым відам спорту. Першыя трэніроўкі былі цалкам скапіраваны са сцэн гэтай стужкі, пазней нейкія элементы мы сталі прыдумляць, нешта дадаваць, нешта ўдасканальваць… Трэніроўкі нагадвалі набор нейкіх акрабатычных эцюдаў, спроб бегання босымі нагамі па сценках ды рассякання ўдарамі далоні драўляных сучкоў. Карацей, ведаў у нас не было ніякіх, затое энтузіязму – з галавой.

Да 1978 года каратэ афіцыйна не дазвалялі, але і не забаранялі – мы трэніраваліся і на адкрытых спортпляцоўках, якія ў савецкія гады былі ледзь не ў кожным двары, і ў спортзале ІФК, калі быў дазвол ад выкладчыкаў… Карацей, развіваліся.

**–Ці праўда, што інфармацыю аб тым, што такое каратэ, вы бралі з самвыдата?**

– Не, не праўда. Пад забарону наш від спорту ў канцы 1970-х яшчэ не трапіў, таму інфармацыя была ў адкрытым доступе. І свежы вецер у гэтым сэнсе падзьмуў з Прыбалтыкі – з Таліна.

Эстонска-фінскі варыянт каратэ ў Мінск прывёз Вячаслаў Кіршэўскі, выдатны майстар, на вялікі жаль, ён не дажыў да нашых дзён. Дык вось ён прывёз у Беларускую ССР патрэбную інфармацыю, і нашы трэніроўкі набылі новы, я сказаў бы, метадычна правільны сэнс, бо эстонска-фінскі варыянт вельмі блізкі да спартыўнага каратэ – з адпрацоўкай тэхнікі, якая ў нас была слабай, са спарынгамі і гэтак далей…

Пазней разам з Кажамякіным мы аб'ездзілі школы каратэ па ўсім Саюзе – былі ў Маскве, Ленінградзе, Горлаўцы, Данецку… Збіралі перадавы вопыт. Я быў першым старшым трэнерам.

**– Пагаворваюць, што славуты барэц Аляксандр Мядзведзь няроўна дыхаў да каратэ…**

– Аляксандр Васільевіч, ужо будучы алімпійскім чэмпіёнам, неаднаразова прыходзіў на нашы паказальныя выступленні, яму падабалася. І мне падаецца, што ў тым ліку і дзякуючы яму беларускае каратэ атрымала добры імпульс для развіцця. Калі відам спорту цікавяцца людзі з імем, самі ведаеце, што бывае… Зялёнае святло загарэлася для беларускіх каратыстаў напоўніцу, і мы гэтым скарысталіся. У Беларусі сталі праводзіцца



ДАВЕДКА «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

*Алег Кірыенка нарадзіўся 1 лютага 1953 года. Кандыдат у майстры спорту СССР, уладальнік 5-га дана па каратэ. У 1978–1981 гадах першы галоўны трэнер зборнай БССР. Чэмпіён СССР 1979 года. Сярэбраны прызёр чэмпіянатаў СССР у асабістым і камандным кумітэ. Неаднаразовы чэмпіён і прызёр чэмпіянатаў БССР па каратэ.*

*Як трэнер падрыхтаваў чэмпіёнаў і прызёраў СНД, Еўропы і свету. Сярод яго выхаванцаў Андрэй і Святлана Вількіны і іншыя.*

*Зараз выкладае каратэ на базе мінскага Палаца дзяцей і моладзі.*

афіцыйныя спаборніцтвы.

**– Поспехі прыйшлі адразу?**

– Амаль што. У 1982 годзе каманда Беларускай ССР стала мацнейшай у Саюзе, а праз год мы былі другімі. У 1983-м за нашу каманду, якую на той час трэніраваў Аляксандр Ляцецкі, выступаў і я.

Дарэчы, раскрыю вам невялікі сакрэт. Вы ж ведаеце, што каратыст апрануты ў кімано? Вось і мы гэта ведалі. А дзе і з чаго пашыць – не асабліва ўяўлялі. Таму бралі звычайныя прасціны і шукалі знаёмых жанчын, якія ўмелі працаваць на швейнай машынцы. Зараз шмат у каго ёсць гэтыя чорна-белыя фотаздымкі, дзе мы выступаем у кімано з прасцін. Канечне, такое кімано было нядоўгавечным – месяцы на два-тры хапала, а потым наперад – за новай прасцінай…

**– Нягледзячы на першыя поспехі беларускага каратэ, гэты від спорту быў забаронены. За заняцце каратэ наступала крымінальная адказнасць. Алег Барысавіч, чаму, на ваш погляд, партыйныя вярхі забаранілі гэты від спорту?**

– Асноўная прычына, на мой погляд, высокі траўматызм спартсменаў. На маёй памяці было пяць смяротных выпадкаў на татамі за некалькі гадоў перад забаронай у 1984-м. І гэта толькі на афіцыйных спаборніцтвах. Пагадзіцеся, гэта вельмі многа. Адзін з такіх выпадкаў здарыўся на маіх вачах.

Адбылося гэта ў Кішынёве. На татамі выйшлі два сябры – ленінградцы Гладышаў і Рыш. Пачаўся паядынак. Арнольд Рыш правёў атаку саперніка ў корпус. Удар быў нямоцны, але… Гладышаў захістаўся, зрабіў некалькі крокаў і ўпаў на татамі… Праз 10–15 секунд ён памёр. Імгненна. Потым дактары сказалі, што ў яго былі пэўныя праблемы з сэрцам. Але ж чалавека не вернеш – смяротная выпадковасць.

**– Яшчэ адной прычынай забароны прынята лічыць фінансавую…**

– Так. Напрыклад, у Мінску заняткі для навічкоў каштавалі 3 рублі, а ў Маскве трэнеры, якія часцяком не мелі ніякага ўяўлення пра каратэ, бралі па 10, 25, а то і 60 рублёў. Зразумела, афіцыйны кошт заняткаў быў ніжэйшы, людзі проста клалі розніцу сабе ў кішэню.

Дарэчы, наколькі я ведаю, у Беларусі не было ніводнага выпадку, калі б чалавек трапіў за краты праз заняткі каратэ, у Расіі такія рэчы здараліся.

І яшчэ адной прычынай забароны нашага віду спорту стала выключна ідэалагічная. Каратэ выхоўвае цэльную, незалежную асобу. Такая філасофія адавочна ішла ў разрэз з камуністычнай ідэалогіяй, якая прымушала людзей «хадзіць строем».

**– Падчас забароны каратэ вы былі вымушаны сысці ў падполле…**

– Так, бо секцыі, дзе займаліся каратысты, пільна правяраліся адказнымі работнікамі. Спорт я не кінуў, усё гэта набыло новыя формы: ствараліся групы па агульнай фізічнай падрыхтоўцы, у якіх спартсмены махалі рукамі ў баксёрскіх пальчатках. Нехта прыходзіў у групы дзеля заняткаў ушу – таксама ўсходняе адзінаборства, якое забаронена не было. Паміж імі ёсць адрозненні, але неспецыялісту зразумець іх складана. Таму выкручваліся.

Час, калі каратэ трапіў пад забарону, беззваротна страчаны. Мы адсталі ў развіцці ад усяго свету гадоў на дваццаць, зараз вось даганяем. І поспехі, я вам скажу, ёсць. Таму што адзінаборствы – гэта наша, беларускае. Спакон вякоў так было.

**–Зараз людзі актыўна займаюцца каратэ?**

– Такога буму, як у часы СССР, няма. Мне зараз 65 гадоў, і я па-ранейшаму выкладаю каратэ, бо гэта маё жыццё, я ў добрым сэнсе фанат. Дык вось на базе Палаца дзяцей і моладзі, дзе я працую, створаны групы. Дарослыя ходзяць, дзеці ходзяць, але не сказаць што шмат. Зараз камп'ютарны век, часцяком дзеці выбіраюць гаджэты, а не заняткі ў спортзале…

**– Алег Барысавіч, прызнайцеся: вам даводзілася прымяняць спартыўныя навыкі па-за татамі?**

– Сітуацыі ў жыцці былі розныя, але запомніце адно простае правіла: каратыст ніколі не будзе ўжываць сілу супраць непадрыхтаванага хаця б на яго ўзроўні чалавека. Я ўвогуле прыхільнік мірнага вырашэння спрэчных сітуацый. Маё крэда такое: запалку лепш патушыць, як толькі яна загарэлася, чым дачакацца, пакуль шугане полымя… З тым і жыву.

**Гутарыў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

Народная Воля

http://www.nv-online.info

27 ЛІСТАПАДА 2018 г.

# Календарь Рождественского поста: с 28 ноября по 7 января

**Среда, 28 ноября**



1 день Рождественского поста
Холодная пища без растительного масла.

**Четверг, 29 ноября**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Пятница, 30 ноября**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота, 1 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Воскресенье, 2 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Понедельник, 3 декабря**



Горячая растительная пища без масла

**Вторник, 4 декабря, большой праздник Введение во храм Пресвятой Богородицы.**



Горячая пища с растительным маслом, рыба, вино.

**Среда 5 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Четверг 6 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Пятница 7 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота 8 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Воскресенье, 9 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Понедельник, 10 декабря**



Горячая растительная пища без масла

**Вторник, 11 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Среда, 12 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Четверг, 13 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Пятница, 14 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота, 15 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Воскресенье, 16 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Понедельник, 17 декабря**



Горячая растительная пища без масла

**Вторник, 18 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба.

**Среда, 19 декабря Большой праздник**



Память святителя Николая, архиепископа Мир Ликийских, чудотворца.
Холодная пища с раст. маслом, вино.

**Четверг, 20 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла.

**Пятница, 21 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота, 22 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Воскресенье, 23 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Понедельник, 24 декабря**



Горячая растительная пища без масла.

**Вторник, 25 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Среда, 26 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Четверг, 27 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла.

**Пятница, 28 декабря**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота, 29 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Воскресенье, 30 декабря**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Понедельник, 31 декабря**



Горячая растительная пища без масла.

**Вторник, 1 января**



Горячая пища с добавлением растительного масла

**Среда, 2 января**



Холодная пища без растительного масла.

**Четверг, 3 января**



Горячая растительная пища без масла

**Пятница, 4 января**



Холодная пища без растительного масла.

**Суббота, 5 января**



Горячая пища с добавлением растительного масла, рыба, вино.

**Воскресенье, 6 января**

Рождественский сочельник. Строгий пост. Не едят до первой звезды. Разговляются сочивом.

**Понедельник, 7 января. РОЖДЕСТВО ХРИСТОВО.**

Окончание поста. Сегодня (и до Крещенского сочельника, 18 января) можно есть всё.

ПА-ЗА ГУЛЬНЕЙ

# Яма мінскага «Дынама»

*Сталічная каманда па-ранейшаму знаходзіцца на дне турнірнай табліцы ў чэмпіянаце Кантынентальнай хакейнай лігі.*



Як вядома, адносна не так даўно ў «Дынама» адбылася змена трэнераў. Канадскага спецыяліста Гордзі Дуаера замяніў добра вядомы беларускім балельшчыкам Андрэй Сідарэнка, які яшчэ ў 1990-я трэніраваў мінскі клуб «Цівалі» і зборную Беларусі. Якія тады былі дасягненні! Але і падбор ігракоў быў зусім іншы: Руслан Салей, Аляксандр Андрыеўскі, Эдуард Занкавец, Андрэй Скабелка… Што ні хакеіст, то зорка!

Аднак іншыя часы – іншыя норавы і гульні. За 20 гадоў беларускі хакей, у які грошы ўкідвалі як у прорву, аказаўся на ўзроўні, які прынята называць «ніжэй плінтуса». Зборная Беларусі ў гэтым годзе вылецела ў ніжэйшы дывізіён, чаго з ёй не здаралася ўжо доўгі час, а галоўны клуб краіны – мінскае «Дынама» – целяпаецца ўнізе турнірнай табліцы ў першынстве КХЛ.

Калі каманда пад кіраўніцтвам Гордзі Дуаера прайграла 13 разоў запар, гэта, відаць, перапоўніла чашу цярпення хакейных «куратараў», і канадца адправілі ў адстаўку. Але і Андрэй Сідарэнка – не ўсёмагутны чараўнік, які прыйшоў на новую пасаду з чароўнай палачкай. З сямі матчаў, якія «Зубры» правялі пад яго кіраўніцтвам, у пяці яны ўжо прайгралі. У апошняй гульні ва Уфе мясцовы «Салават Юлаев» і наогул разнёс мінскую каманду ўшчэнт – 6:1! Так што, па вялікім рахунку, пакуль нічога новага.

І Сідарэнка правільна кажа: гуляем так, як можам. Вось што ён сказаў пасля паражэння ад уладзівастоцкага «Адмирала»: «*На жаль, на ўсіх гульнях фізічны стан ігракоў не самы лепшы. Гэта моцна ўплывае на псіхалагічны стан хакеістаў. Няма балансу паміж абаронай і атакай, мала забіваем. Гульні ідуць праз дзень, таму падцягнуць фізічныя кандыцыі практычна няма часу*».

А вось яго каментарый пасля паражэння ад «Салавата Юлаева»: «*Нас хапіла толькі на першы перыяд. Другі правалілі, зрабілі шмат памылак. Прычына – фізічны стан, які не дазваляе нам дасягнуць той інтэнсіўнасці, якую хацелася б бачыць. Хлопцы стараюцца, але не хапае фізічных кандыцый*».

Адным словам, трэнерскі штаб, па сутнасці, прызнае, што фізічная падрыхтоўка каманды была правалена. І спытаць няма з каго – канадзец ужо ў адстаўцы.

Адно радуе – у «Дынама» застаюцца аптымісты. Днямі 18-гадовы нападаючы «Зубраў» Іван Драздоў заявіў: «*У нас моцная каманда, але нам проста не шанцуе. Трэба сабрацца, і тады перамогі прыйдуць*».

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**Фота: hcdinamo.by**

**P.S.** *Наступны матч «Дынама» згуляе 28 лістапада на «Мінск-Арэне» з адным з лідараў чэмпіянату – фінскім «Ёкерытам».*

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.**
**Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info




**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.11.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 010 экз. Заказ № 4092.